Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 10 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 2 зл. 50 гр; за паўгоду—1 зл. 35 гр. за 3 месяцы — 75 грош; за 1 месяц — 30 грош.

№ 35 (87) | Вільня, 20-га сьнежня 1935 г. | Год 3-ці.

## Крыху об'ектывізму.

„Беларуская Крыніца", спаўняючы, як зазначае, свой „грамадзкі" абавязак, у № 47 з дня 15.XII.35 г. разглядае справу суду паміж Астроўскім і Луцкевічам. Пры гэнай нагодзе рэдакцыя газэты, хочучы прадставіць свайго палітычнага праціўніка ў як найгоршым сьвятле, перацягнула, як кажуць, струну. Між іншым, „Белар. Крыніца" вельмі абураецца, што польскі Урад даваў дапамогі толькі тым беларускім культурным арганізацыям, з каторымі супрацоўнічалі Астроўскі і Луцкевіч, а памінаў усе іншыя беларускія арганізацыі (чытай арганізацыі Беларускай Хадэцыі). Ці-ж быць „Беларуская Крыніца" адначасна хацела атрымліваць субвэнцыі і ад польскага Ураду?

Пара таксама перастаць „Белар. Крыніцы" прыкладаць дзьве розныя меркі да сябе і да другіх. Грашавыя дапамогі могуць быць заўсёды зьведзены да супольнага назоўніка бяз розьніцы на тое, ці яны выдаюцца ў літах або далярах, ці ў злотых. Об'ектыўна кажучы, грашавая дапамога ў літах ці далярах мае тое-ж этычнае значэньне, як і ў злотых. Уся розьніца палягае выключна на практычным яго застасаваньні. Мяне дзівіць, што Белар. Крыніца адчуўшы на ўласнай скуры аж надта добра ведамыя ўсяму беларускаму грамадзянству агідныя „луцкевічаўскія" мэтады прэсавай барацьбы, сама сьвядома ці несьвядома становіцца на падобны шлях у барацьбе са сваім палітычным праціўнікам.

Не зважаючы на тое, што можна было-б шмат чаго сказаць у справе рацыянальнага —з грамадзкага пункту гледжаньня—расходаваньня тых ці іншых дапамогаў тымі ці іншымі беларускімі арганізацыямі, я абмежуся выключна да аб'ектыўнага сьцьверджаньня фактаў, ведамых шырокаму беларускаму грамадзянству.

1) Кожная беларуская арганізацыя і ўстанова кіруецца ў сваёй дзеяльнасьці прынятым ёю статутам ды інструкцыяй, мае свой выканаўчы і кантрольны ворган ды найвышэйшую ўладу ў постаці агульных сходаў сваіх сяброў.

2) Кожны сябра арганізацыі, заўважыўшы нейкае антыграмадзкае ці няэтычнае паступаньне таго ці іншага сябра, абавязаны неадкладна заявіць аб сваіх спасьцярогах ці нават толькі падазрэньнях кантрольнаму воргану гэнае арганізацыі, у праціўным выпадку сам становіцца ўдзельнікам гэтага паступку.

3) Конфлікт паміж гр. Р. Астроўскім і А. Луцкевічам, А. Трэпкай і У. Самойлай мае толькі і выключна *асабістую падкладку* і нячэсна быў выкліканы гр. А. Луцкевічам. Доказам гэтага служыць факт, што вышэйўспомненыя грамадзяне, будучы сябрамі супольных арганізацыяў на працягу дзесятку гадоў, не асьмеліліся падняць справаў,парушаных імі ў сфармуляваных супроць гр. Астроўскага закідах, унутры тых арганізацыяў, якіх гэныя закіды датычылі, а выбралі мамэнт найбольш для іх спрыяючы, загадзя правеўшы дзеля гэтага спэцыяльную падгатоўку ў той арганізацыі, каторай якраз гэныя закіды не датычылі. Прычым, каб дасягнуць сваёй мэты А. Луцкевіч пусьціў у ход свой стары выпрабаваны спосаб: паўводзіў у Навуковае Т-ва новых людзей, нічога супольнага нагул з навукай ніколі ня маючых (пр. Stołyhwo), ды ў канцы так сфабрыкаваў пратакол паседжаньня з дня 15. IV. 1934 г., што сэкрэтар сходу гр. П. Шчастны адмовіўся яго падпісаць

4) Арганізацыі, каторых датычылі гэныя справы, як Т-ва Бел. Асьветы, Беларуская Дабрадзейная Т ва, Корпорацыі „Scorinia", Вучыцельскае Касы Ашчаднасьці і інш., катэгарычна сьцьвердзілі беспадстаўнасьць і недарэчнасьць стаўляных гр. Астроўскаму закідаў, а паступаньні гр. Луцкевіча і К° закваліфікавалі як шкодныя для беларускай справы.

5) Усяму беларускаму грамадзянству добра ведама, што на працягу свае 12 цігадовае дзеяльнасьці ў Вільні, ува ўсіх беларускіх грамадзкіх арганізацыях гр. Р. Астроўскі ня толькі за сваю працу ніколі ніякае платы не атрымліваў, а наадварот, вельмі часта памагаў сваімі ўласнымі грашамі тым з беларусаў, хто апынуўся ў цяжкім палажэньні, а ў асаблівасьці беларускай моладзі, незалежна ад яе грамадзкае, а нават і палітычнае ахварбоўкі.

6) Дзякуючы толькі і выключна стараньням і захадам гр. Р. Астроўскага беларускія грамадзкія арганізацыі, як Бел. Дабр. Т-ва, Бацькоўскі Камітэт, Студэнскі Саюз, Цэнтрасаюз, Т-ва Бел. Асьветы, Корпорацыя „Scorinia" — маглі атрымаць дапамогі на беларускую культурную працу, а ў асаблівасьці дапамогі для беларускай моладзі, якія давалі і цяпер яшчэ даюць магчымасьць сотням дзяцей беларускага незаможнага селяніна і работніка атрымліваць асьвету.

7) Адначасна з гэтым усім таксама добра ведама, што гр. гр. А. Луцкевіч і У. Самойла ўва ўсіх арганізацыях працавалі выключна за плату, так напрыклад: 1) А. Луцкевіч і У. Самойла працавалі і працуюць у Нав. Т-ве і за гэта атрымлівалі і атрымліваюць дагэтуль пэнсыю з тэй-жа ўрадавай дапамогі; 2) А. Луцкевіч і У. Самойла працавалі ў рэдакцыях белар. часопісяў заўсёды *за плату*. У арганізацыі „няплатныя" ўспомненыя паны прыходзілі выключна для віду і то не заўсёды, а найчасьцей з тэй ці іншай прычыны ўлятуваліся.

8) Усім сябрам Т-ва Бел Асьветы ведама, што гр. гр. Луцкевіч і У. Самойла павялі акцыю супроць гр. Р. Астроўскага толькі тады, калі апошні запрапанаваў (у сьнежні 1933 г.) зьменшыць непамерна высокія (ў параўнаньні да іншых працаўнікоў,—напр вучыцеля) пэнсыі гр. А Луцкевічу з 420 зл. у месяц на 360 зл. і гр. У. Самойле з 380 зл на 270 зл.

Урэшце трэба аб'ектыўна сьцьвердзіць, што дзякуючы здабываным гр. Астроўскім субвэнцыям нам удалося ўтрымаць дагэтуль адзіную беларускую сярэднюю школу, якая дае магчымасьць здабываць навуку ў роднай мове сотням беларускіх дзяцей.

Ды ўрэшце што тут далей пісаць. „Беларуская Крыніца" гэта ўсё добра ведае сама. Таму так няпрыемна чытаць падобныя рэчы ў „Беларускай Крыніцы".

На заканчэньне не магу паўстрымацца, каб не запытаць „Беларускую Крыніцу" і ўсіх „многазаслужаных дзеячоў", —што яны зрабілі для нашай школьнай моладзі?

„Ня судзі другога, то і сам ня будзеш суджаны" — аб чым павінна памятаць якраз „Беларуская Хрысьціянская Дэмократыя".

*Кузьма Крук.*

## Сялянская экскурсія у Кракаў.

12 г. м. вярнулася ў Вільню экскурсія, якая зьведала Варшаву, Кракаў і Велічку. У экскурсіі брала ўдзел 750 асоб з Віленшчыны і Навагрудчыны—пераважна беларусы.

Мне ўдалося гутарыць з кіраўніком гр. Г. Швігерам і з некаторымі экскурсаантмі, якія расказалі пра свае ўражаньні.

Экскурсія сабралася ў Вільні, скуль выехала ў Варшаву. Перад выездам экскурсанты былі настроены пэсымістычна, бо думалі, што нічога асаблівага не пабачаць. Але ўжо сама Варшава зрабіла на іх вялікае ўражаньне, асабліва ўвечары, калі горад прыбраўся ў вопратку рознакаляровых нэонавых рэклямаў. Пасьля прыезду сяляне адведалі Замак і злажылі прывітаньні п. Прэзыдэнту Польскае Рэспублікі. Там-жа была выбрана дэлегацыя ў складзе 8 мужчынаў і аднае кабеты. Дэлегацыя гэтая была прынята п. Прэзыдэнтам на Замку. Спачатку нашыя сяляне чуліся анесьмеленыя. Быў момант, калі дэлегаты пачалі гаварыць усе адначасна. Але захаваньне п. Прэзыдэнта было так прыступнае, што дэлегацыя хутка пазбылася свае нясьмеласьці і пачала гаварыць аб сваіх балячках. П. Прэзыдэнт абяцаў прыйсьці з помачай у парушаных справах. Далей п. Прэзыдэнт падчыркнуў, што сучасны Урад скіроўвае асаблівую ўвагу на вёску і прыкладае ўсе старанні дзеля палепшаньня яе эканамічнага палажэньня.

Пасьля экскурсантаў гасьціў 21 полк пяхоты на Цытадэлі, дзе сяляне спатканіся са сваімі знаёмымі. На абедзе быў прысутны Віцэміністар Камунікацыі п. Бобкоўскі. Пад кіраўніцтвам вайсковых праваднікоў экскурсанты зьведалі Варшаву. Увечары ўся экскурсія выехала ў Кракаў.

На станцыі ў Кракаве экскурсію спаткала войска 3 палка цяжкой артылерыі з аркестрам пасьля чаго ўсе ўчасьнікі зьведалі крыпту сьв. Леанарда на Вавэлі, дзе спачывае цела Маршалка Пілсудскага. Як гаварыў адзін з удзельнікаў, постаць Памёршага выклікала сільнае ўзварушэньне, асабліва сярод кабет. Адна з дзяўчат, прозьвішчам Высоцкая з Маладэчанскага павету, злажыла на труне кветкі. Далей, выбраная дэлегацыя у ліку 20 асоб зьведала Совінец.

У 2 гадз. уся экскурсія выехала ў Велічку, дзе зьведала капальні солі глыбінёю 130 мэтраў пад зямлёй. Учаснікі пабачылі там, у якіх цяжкіх варунках прыходзіцца працаваць работнікам у Капальнях і выказвалі з гэтага поваду свае спачуцьцё. Кіраўніцтва капальні ахвяравала экскурсантам вагончык солі. Такім чынам кожны мае памятку з свайго быцьця ў Велічцы.

На гэтым праграма экскурсыі скончылася. У паваротнай дарозе Навагрудзкая група высела ў Лідзе, складаючы падзяку на рукі свайму кіраўніку п Г Швігеру, як прадстаўніку дзяржаўнай ўлады, якая зарганізавала гэтую экскурсію.

Віленская-ж група прыехала ў Вільню, дзе зьведала касьцёл

сьв. Тэрэсы, у якім спачывае часова сэрца Маршалка. Пасьля набажэнства ў Вострай Браме экскурсія разьвязалася. Прадстаўнікі пасобных павятовых групаў злажылі, як і Наваградзкая група такую-ж падзяку гр. Г. Швігеру. Наступнага дня, адумысна выбраная дэлегацыя, злажыла падзяку Віленскаму Ваяводзе і выразіла пажаданьне, каб падобныя экскурсіі, якія даюць магчымасць пазнаць іншыя ваяводзтвы, па магчымасьці ладзіліся часьцей. *Мір.*

## Чэхаславацкі Прэзыдэнт Т. Масарык зрокся свайго высокага ўраду.

Паводле вестак з Прагі, 14-га гэтага сьнежня пасьля 12-е гадзіны Прэзыдэнт Чэхаславацкае Рэспублікі Т. Масарык прыняў у сваёй рэзыдэнцыі Ляна прэм'ер-міністра Мілана Годжу, а таксама старшыняў законадаўчых палатаў, у прысутнасьці свае сям'і ды высокіх вураднікаў канцэлярыі, і заявіў, што зракаецца свайго ўраду.

Прэзыдэнт Масарык падпісаў дакумэнт аб зрачэньні, аб чым быў напісаны асобны пратакол. Дакумэнт падпісаў таксама і прэм'ер д-р Годжа. Прэзыдэнт Масарык яшчэ крыху часу гаварыў з сваім абкружэньнем і ў гэты мамэнт з вежы замку ў Ляне зьняты быў прэзыдэнцкі штандар і вывешаны на будынку прэзыдыуму рады міністраў у Празе ў знак таго, што ўлада прэзыдэнта, згодна з канстытуцыяй, пераходзіць на ўрад да часу выбараў новага прэзыдэнта.

Выстраеныя парад замкам у Ляне чэскія легіянэры пачалі плакаць, атрымаўшы вестку аб зрачэньні Масарыка.

Паводле далейшых інфармацыяў, прэз. Масарык сказаў прамову ў якой зазначыў, што паважнасьць мамэнту вымагае выбару новага маладога і здольнага ў фізычным сэнсе прэзыдэнта, які ўзяў-бы на сябе цяжкае і адказнае становішча галавы дзяржавы.

Урад апрацаваў проект закону, на моцы якога прэзыдэнт Масарык атрымае на ўласнасьць замак у Ляне да канца свайго жыцьця, дзеля таго, што, паводле канстытуцыі, яму не належыцца права на эмэрытуру.

Масарык атрымаў тытул „Прэзыдэнта-Асвабадзіцеля". Яму цяпер 85 гадоў.

Займаючы сваё высокае палажэньне з 1918 году дасюль, Т. Масарык ня меў ворагаў. Папулярнасьць яго ў Чэхаславакіі вялізарная.

Кароткае апісаньне жыцьця гэтага вялікага славяніна і чалавека дамо ў наступным нумары. Доўгі жыцьнёвы шлях Масарыка, ад убогае сялянскае хаціны да прэзыдэнцкага палацу, надзвычайна цікавы. Усё сваё жыцьцё Масарык служыў вялікай ідэі вызваленьня свайго народу і збудаваньня яго назалежнасьці і яму ўдалося гэтага дасягнуць.

На месца Масарыка прэзыдэнтам Чэхаславакіі выбраны яго шматгадовы супрацоўнік і прыяцель міністар заграні́чных справаў д-р Бэнэш. 18-га гэтага сьнежня чэхаславацкае нацыянальнае сабраньне падало за Бэнэша 340 галасоў (на агульны лік 440 сяброў), 76 картак падана чыстых і 24 галасы за праф. Немеца, кандыдатура якога была выстаўлена правымі і ўночы напярэдадні выбараў зьнята.

## З працэсу аб забойстве міністра Перацкага.

У далейшым працягу працэсу перад судом выступае цэлы рад сьведкаў.

Сьведка С. Кусьмерскі, дагляд-чык дому, кажа, што 15 чэрвеня на вуліцы Фоксаль каля дому, дзе адбылося забойства, ён бачыў нейкага падазроннага блёндына, спацыраваўшага на процілежным баку вуліцы. Апранены ён быў у зеленаватае пальто з капялюшом на галаве, чытаў газэту, пад рукою ў яго быў пачак. Крыху пазьней у тым-жа месцы сьведка бачыў другога мужчыну, брунэта, падобнага да абвінавачанага Карпынца.

Абарона прапануе суду устанавіць, на аснове сьледчага матар'ялу, што абв. Карпынэць у часе забойства мін. Перацкага ўжо быў арыштованы.

Сьведка В. Кухарскі ў дзень забойства бачыў, як па вуліцы Шчыглей бег мужчына, ў пальце, без капялюша. Сьведцы паказваюць фатаграфію Мацейкі і яго пальто. Сьведка пазнае на фатаграфіі суб'екта, якога бачыў на Шчыглей вуліцы.

Сьведка Філіпяк, быўшы ў дзень забойства на вул. Капэрніка, бачыў нейкага мужчыну, які адстрэльваўся ад пагоні.

Суд заслухвае рад паказаньняў іншых сьведкаў, у тым ліку функцыянэраў тайнай і яўнай паліцыі. Паказаньні адносяцца да мамэнту пагоні за забойцаю.

Інспэктар паліцыі Пёнткевіч даваў паказаньні аб бомбе, знойдзенай пасьля забойства. Разгляд гэтае бомбы, як думае сьведка, паказваў на тое, што забойства было зроблена сябрамі ОУН. Паехаўшы ў Кракаў, сьведка ўстанавіў аднароднасьць знойдзеных у украінцаў матар'ялаў для бомбаў з тымі, якія ўваходзілі ў склад бомбы, знойдзенай у Варшаве.

Паказаньні начальніка кракаўскае сьледчае паліцыі Більлевіча датычаць работы абвінавачаных Карпынца і Клымышына ў Кракаве. Яны займаліся транспортам нелегальнае украінскае бібулы. Пасьля арышту Карпынэць заявіў што знойдзеная ў яго лябораторыя прызначалася дзеля яго асабістых заняткаў па хіміі і ня мела нічога супольнага з работаю ОУН. Ад далейшых паказаньняў ён і Клымышын тады адмовіліся.

Сьведка В. Вэвюра, падмайстар вайсковае школы зброі, быў выкліканы ў дзень забойства ў клюб на вул. Фоксаль дзеля агляду бомбы. Паводле яго паказаньняў, бомба гэтая была падобная да тых узрыўных прыладаў, якія ўжываюцца ў шахтах дзеля ўзрываньня горных пародаў.

Сьведка Ф. Борскі, кантралёр чугункі, паказаў, што ён правяраў білет Клымышына і зьвярнуў увагу на тое, што яго студэнцкая скідка была падроблена і на ёй было шмат пячатак прыгранічных станцыяў, каторыя знаходзяцца недалёка ад Чэхаславакіі. На адной станцыі сьведка хацеў зьвярнуць увагу паліцыі на падазроннага пасажыра, але Клымышын уцёк. Кантралёру ён сказаў, што падарожнічае, як турысты.

Сьведка Хомраньскі, інспэктар паліцыі ў Катавіцах, дае падробныя паказаньні аб контрабандзе нелегальнае украінскае бібулы, дастаўлянае з Чэхаславакіі. Сьведка кажа, што ў Празе знаходзіцца цэнтр кіраўніцтва ОУН на Польшчу, на чале каторага стаіць Бараноўскі.

Рад служачых яўнае і тайнае паліцыі, якія сачылі за абвінавачанымі і іхняй работай у ОУН, па чарзе дапрашваецца судом. Некаторыя з сьведкаў пазналі сярод абвінавачаных тыя асобы, за каторымі яны сачылі.

Дзеля таго, што адвакат Шлапак некалькі разоў перарываў прэзэса суда і перашкаджаў суду выслухваць паказаньні сьведкаў, прэзэс суда папярэдзіў адваката Шлапака, што ў выпадку паўтарэньня падобных інцыдэнтаў, ён пакарае яго штрафам.

Сьведка Ірына Хомяк, студэнтка львоўскага унівэрсытэту, адмовілася даваць паказаньні папольску, ня гледзячы на тое, што гаварыць папольску яна ўмее. Суд пастанавіў аштрафаваць яе на 100 злотых і агаласіць яе паказаньні, дадзеныя на сьледзтве.

Сьведка Гірны, сьледчы агент са Львова, рабіўшы вобыск у доме Г. Мацейкі ў Шчэрцы, паказвае, што нічога нелегальнага пры вобыску ня было знойдзена.

Сьледам за ім выступае сьведка Яніна Бэгей, каторая заявіла, што аднаго разу Малюца, які зьяўляецца яе знаёмым, сустрэўшы яе на вуліцы, стытаўся, ці няма ў яе вольнага пакою для яго прыяцеля на два-тры тыдні. Пакою ня было, але сьведка, з пазваленьня свае маці, згадзілася даць начлег на тры дні прыяцелю Малюцы. Затым, у часе допыту ў паліцыі, яна даведалася, што яе кватарантам быў Мацейка. А цяпер сьведка Бэгей не прызнае таго, што знайшла ў паказанай ёй фатаграфіі сходнасьць з сваім таямнічым кватарантам.

Сьведка Цесельчук, асьпірант паліцыі, сачыў за работай ОУН у Львове. Сьведка шмат чаго цяпер ня помніць і суд агалошвае яго паказаньні, даныя ў часе ўступнага сьледзтва. У сакавіку 1934 году сьведка атрымаў паведамленьне, што ў Львоў едзе падазронны суб'ект. У Львове на вакзале за прыехаўшым сачылі і было ўстаноўлена, што ён, у зданых у багажным аддзеле на перахаваньне валізках, прывёз пякельную машыну і ўзрывістыя матар'ялы. Валізкі гэтыя забралі нейкія маладыя людзі і адвязьлі ў бурсу студэнтаў-украінцаў. Пазьней быў затрыманы з партфэлем, напоўненым узрывістымі матар'яламі, нейкі Івасык, сябар ОУН.

Дастаўлены ў суд з вастрогу сьведка Ўладымер Спольскі згаджаецца даваць паказаньні папольску і заяўляе, што ў часе сьледзтва казаў няпраўду, таму што яго дапытвалі адразу ў працягу дзевяцёх сутак. Яго нэрвы ня вытрымалі допыту і ён, каб скончыць яго, даў няверныя паказаньні, абцяжваючыя абвінавачаных. Сьведка кажа, што знаў Бандэру, Клымышына, Мыгаля, Качмарскага, Малюцу, Зарыцкую і Рака. На пытаньне суда, ці ён знаў іх, як дзеячоў ОУН, сьведка кажа, што не. Суд агалошвае яго паказаньні з уступнага сьледзтва. Спольскі прызнаўся тады, што займаў адказнае палажэньне ў аддзеле прапаганды ОУН.

Дзеля таго, што сьведка заявіў, быццам яго тэрорызавалі ў часе допыту, пракурор пытаецца ў яго пра падробнасьці. На гэта сьведка дае блутаныя адказы і кажа, што дакладна ён ня помніць. Не дае таксама Спольскі яснага адказу і на пытаньне пракурора, чаму ён пра гэта не заявіў у часе допыту сьледчаму судзьдзі і пракурору.

Часьць паказаньняў Спольскага датычыць арганізацыі „партыйнага суда" ў ОУН, які засуджваў іншы раз сваіх сяброў на сьмерць. Сябрам гэткага „суда" быў і Спольскі і ад яго часам залежала затрыманьне прысуду сьмерці або яго выкананьне.

На пытаньне адваката, ці пасылаў сьведка украінскую літэратуру ў Варшаву, Спольскі дае пацьвярджальны адказ, а гэта ідзе ў суперач з галоўнаю лініяй абароны, якая цьвердзіць, што работа ОУН вялася толькі ў паўдзённа-ўсходніх ваяводзтвах.

Пасьля паказаньняў Спольскага пракурор заяўляе, што сьведка маніць, быццам яго білі ў ва-

## Зьмітрок Бядуля (Ясакар).

*(у 25-ыя ўгодкі літэратурнае працы).*

Своеасабліва выступаюць у лірыцы Бядулі і матывы вайны, што ўжо было адзначана ў нашай літэратурнай крытыцы (Я. Фарботко „Беларусь у песьнях", Менск, 1920, стр. 52—55, А. Навіна „Водгукі Вялікае Вайны", у зб. „Адб. Ж.", I, стр. 90—92). Вось як уяўляе вайну Бядуля ў вершы „Волат". У ваенную буру паймчаўся юнак-асілак. Усюды страх і жудасьці. Поэт хоча стрымаць асілка-юнака. Але ён... „паймчаўся далёка... Прапаў," захоплены дынамікай і размахам падзеяў. Але гэты-ж юнак-асілак прынясе і помсту, бо ён—увасабленьне помсты „за мора няшчасьця і сьлёз", ён „шчасьце старых і дзяцей" Верш наагул няясны, розна інтэрпрэтаваны. Ясакар, бязсумліўна, адносіцца да вайны нэгатыўна. Беларускі народ не ваяваў ніколі, таму спрыяюць яму нават стыхіі прыроды, хочучы вызваліць край ад ваеннае навалы („Ад крыві чырвонай"...) Давалі няясны верш „Арліхі", таксама навеяны ваеннай завірухай.

Выразна выступае ў лірыцы Бядулі і іншая яго асаблівасьць—містыцызм. Крыніцы містыцызму ў нашай літэратуры зьвязаны неразлучна з народным сьветапаглядам. Містыцызм Бядулі апрача гэтых крыніц мае і іншыя крыніцы—біблійныя. Поэт шырака распрацоўвае біблійныя матывы. Ён нават пераклажыў цэлы рад псальмаў. У творах з біблійнымі матывамі выступае часта і філёзофская развага поэта („Бяссоннасьць" і інш.). Асабліва характэрным зьяўляецца верш „Дзіця рая" (падобны да „Ангела" М. Лермонтова), у якім выказана Плятонаўская думка аб анамнэзе.

Там, дзе маем у Бадулі містыцызм, мы можам часта выкрыць уплывы народнае творчасьці, але гэтыя ўплывы пранікаюць шырэй, і ня толькі ў зьмесьце, але і ў форме.

Адзначым яшчэ матывы эстэтызму ў Бядулі, якія часта зьбліжаюць яго да М. Багдановіча. У імпрэсіі „Над сажалкай" („Abrazki") выяўлена чуласьць на хараство вясковай дзяўчынкі, якая рэагуе на яго так, як можа, як умее. А тымчасам—насіцелькай гэтага хараства яна была сама. Падобны спосаб выяўленьня эстэтычнае эмоцыі мы бачым і ў „Малітве малога Гобрусіка[1]). Прырода ў Бядулі займае таксама значнае месца. Малюючы прыроду, поэт ужывае надзвычай шмат мастацкіх вобразаў, параўнаньняў і т. п. Заслугоўвае на асаблівую ўвагу з гэтага боку верш „Сьнег". Мы бачым з гэтага пабежнага агляду лірыкі Бядулі, як разнародныя ў яго матывы, як арыгінальны ён у падыходзе да тэмы і яе апрацоўцы. Але і ў галіне формы Бядуля таксама асаблівы. Ужо ў „Abrazkach" ён часта задзіўляе нас надзвычайнай поэтычнасьцю, мэлёдыйнасьцю, вобразнасьцю. Напр.: „А можа і праўда, што ў пажарышчы тваіх ясных вачэй палаюць замчышчы нейкіх старасьвецкіх казак, каторыя варожаць салодкім шопатам сваім?" („Abrazki"). Часта форма імпрэсіяў Бядулі прыпамінае ўсходнюю літэратуру, прыпамінае Рабіндранат Тагора і інш. (напр. „Акорды", у „Вялікоднай пісанцы", Вільня, 1914, стр. 68—71). Форма Ясакара ўсё больш і больш удасканаліваецца і поэт чуе сваю творчую сілу, ён падняўся ўжо на недасяжныя вышыні („Пяе струна натхнёная").

Бязумоўна, зьмены, якія адбыліся ва Ўсходняй Беларусі, закранулі і Бядулю, як закранулі і іншых нашаніўцаў. Бядуля—зьвязаны моцна з скарбамі народнае творчасьці, гэтай нявычэрпанай творчай крыніцай, і таму яго навейшыя творы цікавыя і арыгінальныя. У яго нават ідэя і далёкая ад беларускага жыцьця, прышчэпленая на беларускі грунт, абвеяная вятрамі „зачарованых гоняў", робіцца неяк беларускай і па зьместу. Зборнік апавяданьняў „На зачарованых гонях" зьмяшчае 30 апавяданьняў, у якіх наагул пераважаюць соцыяльныя тэмы. Усюды, аднак, выступаюць памастацку зарысованыя тыпы беларускіх сялян, паказана іх псыхолёгія, абмалёваны беларускі быт.

[1]) Гэтае апавяданьне перакладзена на жыдоўскую мову.

адрэс, тым больш заробіш; а знаходзіцца і гэтая рэшта добрых адрэсоў дэкомплетуецца.

Панапісваныя гэтак тытулы *ідуць у экзэкуцыйны аддзел.* Ураднікі гэтага аддзелу, таксама перагружаныя нармальна працаю, ня могуць даць рады з увесь час надходзячымі паведамленьнямі з Дзяржаўнага Закладу Страхаваньняў ад агню, з воласьці і Выдзялу Павятовага аб заплачаных у міжычасе паасобнымі платнікамі гэткіх вось і гэткіх падатках, і ў дробнай толькі часьці тытулы гэтыя з прыдзелаў, прыгатоўленых для сэквэстратараў, бяруць назад, а рэшта ідзе ў экзэкуцыю"...

(Канец будзе).

# Пісьмо у рэдакцыю.

Да Грам. Рэдактара газэты „Родны Край".

Паважаны грам. Рэдактар!

Не адмоўце надрукаваць у Вашай газэце наступнае заявы, зложанай мною дня 9 сьнежня 1935 г. ў натарыюса Я Платакіса:

Do Pana Józefa Płatakisa, notarjusza w Wilnie

Radosława Ostrowskiego, zamieszkałego w Kolonji Wil. przy ul. Dolnej № 9.

OŚWIADCZENIE:

Niniejszem proszę Pana Notarjusza o zakomunikowanie Panu adwokatowi Bronisławowi Krzyżanowskiemu, zamieszkałemu w Wilnie przy ul. Jakóba Jasińskiego 6, następującego mego oświadczenia:

Wilno, dnia 9.XII.1935 r.

Do Pana Mecenasa Bronisława Krzyżanowskiego, b. superarbitra Sądu Obywatelskiego pomiędzy R. Ostrowskim i A. Łucklewiczem, A. Trepką i W. Samojłą.

Szanowny Panie.

W dniu 22.XI. 1935 r. wystosowałem, do Pana, jako b. superarbitra Sądu Obywatelskiego, list treści następującej:

Wilno, dnia 22 listopada 1935 roku. Do Pana Mecenasa B. Krzyżanowskiego b. superarbitra Sądu Obywatelskiego pomiędzy R. Ostrowskim a A. Łuckiewiczem, A Trepką, i W. Samojłą. Szanowny Panie Mecenasie. Wobec tego, że wyrok Sądu Obywatelskiego został wydany bez motywów i w takiej formie, która umożliwia dowolną interpretację, zmuszony jestem podać przebieg całego procesu do wiadomości publicznej za pomocą prasy. Jestem w posiadaniu wszystkich piśmiennych oświadczeń, zarzutów i zeznań strony przeciwnej; brak mi tylko protokółów posiedzeń Sądu, o które zwracam się do Szanownego Pana. Rozumiem, że odpisy protokółów muszę sporządzić sam i dlatego proszę o łaskawe wskazanie miejsca i czasu, w jakim ma się stawić mój sekretarz w celu sporządzenia wspomnianych odpisów. Zaznaczam jednocześnie, iż zależy mi na pośpiechu. Z poważaniem (—) R. Ostrowski".

Na list powyższy w przeciągu dwóch tygodni żadnej odpowiedzi nie otrzymałem, w związku z czem w dniu 6.XII.1935 r. ponownie, za pośrednictwem posłańca Stefana Prokopowicza, doręczyłem Panu pismo o brzmieniu — jak poniżej:

„Dnia 6.XII.1935 r. Wilno, Ostrobramska 9. Szanowny Panie Mecenasie. Wobec nie otrzymania od Pana odpowiedzi na mój list w sprawie odpisów protokółów posiedzeń Sądu Obywatelskiego, ośmielam się ponownie prosić Pana Mecenasa o łaskawe powiadomienie: czy i kiedy może stawić się mój sekretarz w celu sporządzenia wspomnianych odpisów.

Z poważaniem (—) R. Ostrowski.

Na list ten również odpowiedzi nie otrzymałem.

Mając na względzie powyższe, zmuszony jestem poraz ostatni tą drogą zwrócić się do Pana Mecenasa z uprzejmą prośbą o powiadomienie mnie w terminie trzydniowym od doręczenia niniejszego pisma, czy i kiedy moja prośba o wydanie odpisu protokółów rozpraw Sądu Obywatelskiego zostanie uwzględniona.

Z poważaniem (—) R. Ostrowski.

Адначасна зазначаю, што пісьмо гэнае даручана было адрасату натарыюсам дня 9 сьнежня 1935 г. Repertorjum № 933, але дагэтуль я ніякага адказу не атрымаў.

З пашанай (—) *Р. Астроўскі.*

Вільня, дня 20 XII. 35 г.

**Ад Рэдакцыі:**

Дзівіць нас, чаму б. Супэрарбітэр Грамадзк. Суду ня хоча дапусьціць да апублікаваньня ўсіх актаў і высьненьняў старон конфлікту паміж Р. Астроўскім і гр. А. Луцкевічам, А. Трэпкай і У. Самойлай. Гэта яшчэ лішні раз даказвае праўдзівасьць становішча Міжарганізацыйнай Камісіі, пратакол якой быў зьмешчаны ў „Родным Краі" з дня 26 лістапада 1935 г. № 31.

# На абісінскім фронце.

За апошні час на італа-абісінскім фронце сытуацыя амаль не зьмянілася. Абісінцы, пасьля нядаўніх сваіх удачаў, не прадаўжаюць наступленьня, ведаючы, што далейшае наступленьне можа пры весьці іх да згубы.

Італьянскае камандаваньне таксама, як відаць, уважае, што італьянскія войскі яшчэ ня досыць прыгатаваны да рашучага наступленьня.

Пакуль абедзьве варожыя арміі гарачкова рыхтуюцца да рашучых дзеяньняў, адбываюцца толькі драбнейшыя партызанскія сутычкі і налёты італьянскіх самалётаў на абісінскія гарады і вайсковыя лагеры

15-га г. м. у Огадэне, у 65 кілёмэтрах ад места Сассабанэс італьянскія аддзелы прабавалі перайсьці ў наступленьне, але абісінцы паўстрымалі італьянскае наступленьне, разграміўшы італьянскія атрады і зьнішчыўшы 13 бранявых самаходаў.

Некалькі сот італьянскіх салдат-самалійцаў перайшло на старану абісінцаў.

На самалійскім фронце італьянскія самалёты збомбардавалі абісінскія вайсковыя лагеры ў ваколіцы Нэгэллі, 240 кілём. на паўночны захад ад Долё. Амаль палова палатак абісінскага лагеру была спалена бомбамі. Абісінцам удалося падстрэліць адзін з 15 ці атакуючых італьянскіх самалётаў.

Паводле афіцыяльных італьянскіх паведамленьняў, у ваколіцы ракі Таказэ абісінскі атрад, лікам каля 3000 асоб, перайшоў у наступленьне і змусіў італьянскія войскі адступіць. Іншы атрад абісінцаў ударыў на італьянцаў з боку, каля места Сцірэ. Бой трывае далей. Страты італьянцаў значныя.

У ваколіцы гары Мусса-Алі трываюць жорсткія баі. Усе спробы італьянцаў выціснуць абісінцаў з іх пазыцыяў скончыліся няўдачай. 17-га г. м. у Адзіс-Абэбе атрыманы весткі, сьцьвярджаючыя, што абісінскія атрады знаходзяцца на поўначы ад Макальле, значыць, што абісінцы і на паўночным фронце зайшлі ў тыл італьянцам. Сьцьвярджаецца таксама, што абісінцам удалося захапіць 4 італьянскія самалёты. Весткі гэтыя выклікалі у Адзіс-Абэбе вялікую радасьць. Гэтага-ж дня адбыліся хаўтуры амэрыканскага доктара Хокмана, забітага італьянскай бомбай у Дагабэры. Хаўтуры, у якіх прынялі ўдзел абісінскі ўрад, дыплёматычны корпус, эўрапэйская колёнія і вялізныя тоўпы народу, перэтварыліся ў дэмонстрацыю ў чэсьць эўрапэйскіх прыяцеляў Абісініі.

18-га г. м. войскі раса Сэйюма нанесьлі ў ваколіцы ракі Таказы італьянцам новае паражэньне. Італьянцы пасьпешна адступаюць пад націскам войскаў раса Сэйюма і раса Кассы.

Атрыманы весткі, што аднаму з абісінскіх атрадаў удалося прарваць італьянскі фронт пры рацэ Таказэ. У ноч на 19—е г. м. атрад гэты зьявіўся пад Аксумам, гдзе і завязаўся зацяты бой.

# Хаўтуры Адама Пілсудскага.

18-га г. м. адбыліся ў Вільні хаўтуры памёршага ў панядзелак (16 г. м.) раніцай у Варшаве віцэпрэзыдэнта Вільні і сэнатара А. Пілсудскага, брата памёршага Маршала Я. Пілсудскага.

Адам Пілсудскі пахаваны каля таго месца, дзе мае быць пабудованы маўзелей Маршалка.

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

— Выйшаў з друку № 1 часопісі „Mówią Młodzi!", орган беларускай моладзі. Гэтая грамадзка-літэратурная часопісь (месячнік) рэдагуецца ў польскай мове. Мае на мэце інфармаваць польскае грамадзянства аб усякіх праявах беларускага жыцьця, а так-жа і заанаёміць яго з беларускімі культурнымі асягненьнямі. Цана асобнага нумару 20 гр.

— Выйшаў з друку зборнік вершаў гр. У. Л. Казлоўшчыка пад назовам „Шляхам змаганьня" — цана 75 гр.

Рэцэнзыю аб гэтым зборніку падамо ў наступных нумарох нашае газэты.

— 21 гэтага месяца распускаюцца на Калядныя фэрыі вучні Віленскай Беларускай Гімназіі.

Фэрыі прадоўжацца да 10 студзеня 1936 г.

— Як даведываемся, захварэў на ныркі стары беларускі дзеяч, быўшы сэнатар А. Уласаў. Хворы знаходзіцца у шпіталі сьв. Якуба ў Вільні.

# Як можна самому зрабіць мыла.

Гаспадарчы крызіс усяўладна пануе на нашых землях. Нідзе хіба так востра не адчуваецца ён, як у нас. Гэта сьцьвярджаюць ня толькі беларусы, але і эканамісты-палякі. Мы ня будзем увaходзіць у прычыны гэтага зьявішча. Зазначым толькі, што ў выніку гаспадарчага застою перадусім паніжаецца пакупная здольнасьць шырокіх слаёў насельніцтва. Спажывец абмяжоўваецца толькі да куплі самых неабходных тавараў. Заняпадае гандаль і прамысловасьць і т. д. Праўда, нававыбраны ўрад пачаў змаганьне з крызісам. Ужо значна паніжаны цэны на розныя прадукты першай неабходнасьці, як цукар, нафта і т. п. Але, ясна, гэтыя сродкі не зьліквідуюць цяжкае гаспадарчае хваробы, дый палепшаньне гаспадарчага жыцьця не адбываецца раптоўна.

Крызіс перадусім б'е па сельскай гаспадарцы. Цэны на сельскагаспадарчыя прадукты нізкія ў параўнаньні з цэнамі фабрычна-прамысловых вырабаў. Цэны гэтыя разыходзяцца, як вілцы ў ножніцах. Селянін усё больш абмяжоўвае свае выдаткі і патрэбы. Гаспадарчыя зносіны вёскі з местам слабнуць і існуюць толькі ў такой меры, каб выраўнаць буджэт для „мінімум эгзыстэнцыі".

Гэты *паварот да натуральнае гаспадаркі на вёсцы вельмі значны.* Вагонь шмат дзе дабываецца пяршабытным спосабам, робяцца запальнічкі з дрэва, вагонь перахоўваецца ў печы, пазычаецца распаленае вугольле і т. п.

*Побач з іншымі таварамі селянін адмоўляецца часта і ад мыла.* Мы ня будзем тут казаць аб значэньні мыла для здароўя. *Дзе няма мыла—там бруд,* а значыць—адпаведныя варункі для паўставаньня розных хваробаў і сьмяротнасьці Наш селянін яшчэ ня ўсюды прызвычаіўся да мыла, як да неабходнай рэчы. Шмат мы знойдзем па вёсках людзей, якія мыюцца толькі ў нядзелю або і зусім ня ўжываюць мыла (асабліва старэйшыя асобы).

**Трэба на вёсцы прапагаваць мыла!**

А як-жа яго прапагаваць, калі чалавек купляе ў мястэчку на 2 грошы запалак, а пасьля кожную запалку рэжа на 2, 3 або 4 часткі?!

Выхад адзін: трэба самім рабіць мыла. Пры сучасным крызісе, бязумоўна, людзям практычным і культурным лягчэй жывецца, чым людзям цёмным. Наш-жа народ яшчэ ў значнай ступені малакультурны. На Палесьсі, напрыклад, якое прыймала найбольшы ўдзел у выбарах, на 100 чалавек 88 няграматных. Ясна, што пры такім культурным стане мы далёка ня зойдзем Цяжка цяпер і дзяцей вучыць. Сялянскім дзецям фактычна цяпер недаступна сярэдняя, а часта нават і пачаткавая школа.

Дык што ж рабіць? Бязумоўна, *ратавацца.* Покі сонца ўзыйдзе, раса вочы выесьць. Розныя абяцанкі, ямія мы чулі і чуем з розных бакоў, нічога амаль не далі нам і не даюць. Самі мусім змагацца з крызісам, *каб ня згінуць.*

Як вось, напрыклад, можна было-б вырабіць мыла самому і яго ня купляць у краме. Зрабіць можна. Аб гэтым я і хачу расказаць у гэтай гутарцы.

Хоць мыла хатняга вырабу якасна ня будзе такое, як фабрычнае, аднак, у сельскай гаспадарцы, дзе бялізна пераважна ільняная, яно заступіць зусім пакупное. Зрабіць мыла—зусім ня мудрая рэч. Трэба толькі быць *уважным.* Чыгун (белы унутры), у якім будзем варыць мыла, павінен быць два разы большы ад мыльнае масы (г. зн. *калі мыла варым 5 літраў, чыгун мусіць быць на 10 літраў*). Трэба наліваць *значыцца палову пасудзіны.* Гэта вельмі важна, бо інакш мыла пры варцы выбяжыць.

Далей трэба варыць мыла на раўнамерным вагні, мяшаючы, каб не прыгарэла.

Галоўная складаная частка мыла гэта—тлушч (тук), абы які: можна мыла рабіць з тлушчам конскім, сьвіным, баранім, заячым і т. д. Перадусім трэба яго растапіць і аддзяліць шкваркі, якія можна ўжыць на што-небудзь іншае. У склад мыла ўваходзяць таксама розныя алеі: ільняны, рэпаковы і т. д. Тукі *могуць быць самых апошніх сартоў* і нават сапсутыя. Апрача тлушчу ў мыла кладуць яшчэ соду, паташ, вапну, кухонную соль, каляфонію і льлюць ваду. Гэтыя прадукты лёгка можна атрымаць у кожным аптэкарскім складзе. Зваранае мыла выліваюць у драўляныя скрыначкі з дзірачкамі ў дне (каб мог сьцякаць луг), якія высланы тоўстым палатном. У скрыначках мыльная маса павінна быць ахаладжана, але не застыгнуўшая. Пад скрыначкамі падстаўляюцца якія-небудзь пасудзінкі, у якія праз дзірачкі сьцякае луг. Луг можна выкарыстаць на мыцьцё падлогі іт.д.

Ёсьць шмат спосабаў варкі мыла, але я падаю тут толькі адзін, самы просты. 5 кілё тлушчу, $2^{1}/_{3}$ кілё содавага лугу падаграваецца на вагні да кіпеньня. Пасьля гэта адымаецца на 12 гадзін. На другі дзень гэтая маса варыцца 5 гадзін на раўнамерным малым вагні. Тады ўсыпаюць 30 дэкаў кухоннай солі (соль аддзяляе мыла ад лугу). Варыць з сольлю трэба так доўга, пакуль луг не аддзеліцца ад мыла. Гэта трывае каля 2 гадзін. Каб пераканацца, ці зварана ўжо мыла ці не, трэба трошкі перавaранае мыльнае масы ўліць на талерачку, калі яно застывае ўсёй паверхняй і няма мясцамі лугу, мыла, значыць, гатова.

Трэба яго зьняць з вагня, паставіць, каб крыху астыла, і разьліваць у формачкі. Пасьля яго рэжам і ўжываем.

Рэдактар: А. ФЛЕРАЎ. Выдавец: С. КАРОЛЬ. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22. Тэл. 21-14.